*Пра знакамітага нейрахірурга Арнольда Смяновіча і лёс яго сям'і чытайце на 4-й стар.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 1 (4459)

3 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

*Як вядома, Пуцін з Мядзведзевым працягваюць выкручваць рукі Лукашэнку па нафтагазавай праблеме. Не выключана, што ўжо ў бліжэйшыя месяцы Беларусі давядзецца пераходзіць на новыя гандлёвыя адносіны з Расіяй – за вуглевадароды трэба будзе плаціць значна больш, чым да гэтага.*

## Пераход на закуп у Расіі нафты і газу па рынкавых цэнах – смяротна для Беларусі ці несмяротна?

**Уладзімір МАЦКЕВІЧ, філосаф і метадолаг:**

– Гэта не смяротна, а нават добра і карысна.

Карысна для аздараўлення эканомікі, а добра менавіта таму, што купляць будзем па рынкавых цэнах, бо дамагацца паслаблення – гэта доля папрашаек, прывязка і залежнасць ад расійскай палітыкі.

**Валерый ВАРАНЕЦКІ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў:**

– Увесь свет жыве па рынкавых цэнах. І ніхто ад гэтага яшчэ не памёр. Наадварот, рынкавая эканоміка, справядлівыя канкурэнцыя і цэны эканамісты лічаць дабром для збалансаванага развіцця любой эканомікі.

Іншая справа, калі казаць пра нашы адносіны з Расіяй у агульным кантэксце, і гэтага нельга не ўлічваць. Мільёны беларусаў асвойвалі бязкрайнія прасторы той жа Сібіры, разам будавалі гарады, заводы, у тым ліку і прадпрыемствы па здабычы нафты і газу. І, вядома ж, у гандлёвых адносінах гэта павінна ўлічвацца.

**Уладзімір НІСЦЮК, выканаўчы дырэктар асацыяцыі «Аднаўляльная энергетыка»:**

– Думаю, смяротна, таму што гэта будзе не паэтапнае, а рэзкае павышэнне коштаў і ў нас проста не хопіць грашовых сродкаў і рэсурсаў, каб разлічыцца з Расіяй.

Сёння Беларусь і так мае вялікі знешні доўг, улады спрабуюць заняць недзе, шукаюць крэдыты, але ж гэта не выйсце. Зразумела, што прыйдзецца павышаць кошты на энерганосьбіты ўнутры краіны, што можа выклікаць сацыяльны выбух. Многія людзі і так незадаволены тым, што адбываецца: эканамічная сітуацыя складаная, заробкі маленькія, цэны растуць...

**Аляксандр ШАКУЦІН, старшыня савета дырэктараў ААТ «АМКАДОР» – кіруючая кампанія холдынга»:**

– Не смяротна! Канешне, у макраэканоміцы гэта мае значэнне, таму што любая заробленая капейка ў канчатковым выніку дае магчымасць развіваць нейкія сумежныя вобласці, але ў сабекошце прадукту – гэта невялікая доля. Але ж...

Не першы раз узнікае такая праблема, і кожны раз прэзідэнт спраўляўся з гэтай задачай бліскуча, знаходзіў рашэнні. Думаю, і зараз нафтагазавая праблема будзе вырашана, а ніколькі ў гэтым не сумняваюся.

**Міхаіл ЧЫГІР, прэм'ер-міністр Беларусі ў 1994–1996 гадах:**

– Смяротным бывае чалавек, а не дзяржава! Будзем выжываць, нікуды не падзенемся. Мяне здзіўляе іншае. Відавочна, што каб захаваць незалежнасць і самастойнасць, эканоміку трэба было даўным-даўно адаптаваць да сусветных цэн на нафту і газ, але наша ўлада гэтага не рабіла і не робіць. А прыйдзецца, іншага не дадзена!

**Ірына ТАЧЫЦКАЯ, навуковы дырэктар даследчага цэнтра ІПМ, кандыдат эканамічных навук:**

– На мой погляд, не зусім карэктна рабіць нейкія прагнозы ў той час, калі ідуць перамовы, таму што няма канкрэтнай інфармацыі. Фактычна мы маем цану на газ толькі на два месяцы, не ведаем, пра якую цану на нафту на наступны год будзе ісці гаворка... Але, безумоўна, Беларусь як эканоміка будзе функцыянаваць пры любым раскладзе. Будуць нафта, газ па сусветных коштах – будзе іншая эканамічная сітуацыя ў краіне, будуць страты, прыйдзецца падладжвацца. Але катастрофы не адбудзецца.

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, старшыня Нацбанка Беларусі ў 1991–1995 гадах, доктар эканамічных навук, прафесар:**

– Вядома, не смяротна. Для нацыі, для Беларусі важней незалежнасць, чым гэтая льготная кабала. Лепш плаціць агульнаеўрапейскую цану на нафту і газ, навучыцца жыць у такіх умовах, а не спрабаваць выкручвацца, як кажуць, на халяву. Беларусы не дурнейшыя за іншых, мы здольныя павышаць прадукцыйнасць працы, нам толькі трэба палепшыць зямянальнасць улады – і ўсё будзе выдатна.

**Апытвалі Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ і Алесь СІВЫ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Дзякуй за вернасць «Народнай Волі»!

Многія з Вас, шаноўныя чытачы, напэўна, заўважылі: тыраж «Народнай Волі» ў студзені 2020 года застаецца на ўзроўні мінулага года. Дзякуй Вам, даражэнькія, за вернасць сваёму любімаму выданню! Сёння, калі з-за розных прычын скарачаюцца наклады друкаваных газет, вынік чарговай падпісной кампаніі – гэта наш агульны з Вамі поспех. Будзем спадзявацца, што і ў далейшым мы будзем разам.

***Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!***

***З Новым годам і Нараджэннем Хрыстовым Вас, паважаныя чытачы!***

***Рэдакцыя.***

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

### Помпео ненадолго отложил визит в Беларусь из-за нападения на посольство США в Ираке



*Государственный департамент США объявил, что визит госсекретаря Майка Помпео в Беларусь, который был запланирован на эти дни, не состоится в запланированные сроки.*

Информацию об этом распространила пресс-служба Госдепа.

Одновременно был отложен визит госсекретаря и в ряд других государств региона: Украину, Казахстан, Узбекистан и Кипр.

Причина изменения планов – нападение на посольство США в Ираке, заверил представитель Госдепа Морган Ортагус. «Решение принято из-за необходимости присутствия государственного секретаря в Вашингтоне для продолжения мониторинга нынешней ситуации в Ираке и для того, чтобы гарантировать безопасность и защиту американских граждан на Ближнем Востоке», – пояснил он.

Во внешнеполитическом ведомстве заверили, что визит не отменен и должен быть проведен в ближайшее время.

РЭБУС

### У нас вайны няма, а мінімальная зарплата на 20 з лішнім долараў меншая, чым ва Украіне

Вось дык рэбус падкінулі нам украінскія ўлады! Нягледзячы на тое, што немалая частка бюджэту траціцца на вайну, якая доўгі час працягваецца на Данечыне, мінімальную зарплату з 1 студзеня 2020 года яны змаглі падняць амаль да 200 долараў.

У Беларусі, дзякуй Богу, ціха, ні з кім не ваюем. Але ў нас мінімальная зарплата пакуль ледзь-ледзь дацягнула ў эквіваленце да 177,9 долара.

**Вера ЛАЎНІКОВІЧ.**

БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ

### «Брудная» нафта не праскочыць

Уласную сістэму вымярэння параметраў якасці нафты пабудуе ў 2020 годзе адкрытае акцыянернае таварыства "Гомельтранснафта Дружба". Так званая станцыя кантролю размесціцца ў памежжы Беларусі і Расіі на ўчастку нафтаправода "Унеча–Мазыр".

Месцазнаходжанне станцыі ўдакладніў "Народнай Волі" намеснік генеральнага дырэктара "Гомельтранснафта Дружба" па будаўніцтве **Андрэй Карабань**. Ён, аднак, адмовіўся назваць праектны кошт навабуда і вытворцу абсталявання, якое будзе сачыць за якасцю нафты, што паступае з Расіі на Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, а таксама ідзе транзітам у Польшчу, Украіну, Венгрыю, Германію.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

### На новых пасадах

Беларусь з 1 студзеня стала старшынёй Еўразійскага эканамічнага саюза.

Як вядома, у яго ўваходзяць наша краіна, Расія, Арменія, Казахстан і Кыргызстан. Былы спікер Савета Рэспублікі **Міхаіл Мясніковіч** пачаў працаваць на пасадзе кіраўніка калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі.

**Станіслаў Зась** – генеральны сакратар Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы. Гэта рэгіянальная міжнародная арганізацыя, якая займаецца пытаннямі бяспекі. На сённяшні дзень у яе ўваходзяць Беларусь, Арменія, Казахстан, Кыргызстан, Расія і Таджыкістан.

ЗА РУБЕЖОМ

### С 1 января Польша приняла командование силами быстрого реагирования НАТО

Совместные оперативные силы очень высокой готовности (VJTF) были созданы в ответ на российскую аннексию Крыма в 2014 году. С момента своего основания они функционируют как элемент стратегии сдерживания России. В их состав входят военнослужащие повышенной боевой готовности, делегированные на основе ротации между государствами-членами. Эти военнослужащие остаются в местах дислокации, но они должны быть способны в течение 48–72 часов попасть в любое нужное место.

По данным НАТО, совместные оперативные силы высокой готовности составляют около 6 тысяч военнослужащих, в том числе около 3 тысяч из Польши. Также в силы быстрого реагирования входят подразделения из Болгарии, Чехии, Венгрии, Италии, Литвы, Латвии, Португалии, Румынии, Испании, Словакии, Турции и Великобритании.

США заявляют о поддержке VJTF воздушными силами и другими боевыми ресурсами.

VJTF состоят из сухопутных войск, военно-воздушных, морских и специальных сил и являются частью 40-тысячных Сил реагирования НАТО.




КАЛЕЙДОСКОП

### Болгария начала получать российский газ из «Турецкого потока»

Об этом заявил генеральный директор компании «Булгартрансгаз» Владимир Малинов.

«У нас есть 11 километров газопровода от болгарско-турецкой границы до компрессорной станции «Странджа» и газоизмерительной станции «Странджа». Они введены в эксплуатацию. И существующая инфраструктура, в частности Трансбалканский газопровод, также готова к транспортировке необходимого количества газа по уже существующему маршруту», – сказал Малинов.

До сих пор Болгария почти полностью зависела от поставок российского газа, который транспортируется через украинскую газотранспортную систему и территорию Румынии.

НА ЗАМЕТКУ

### Семейный капитал: программу продлили и изменили

Как известно, программа семейного капитала была утверждена в Беларуси 1 января 2015 года и должна была действовать до 31 декабря 2019 года. С 1 января 2020-го она продлена еще на пять лет. И теперь при рождении (или усыновлении) третьего или последующего ребенка на депозитный счет семьи получит 22,5 тысячи рублей (почти 11 тысяч долларов). Раньше было 10 тысяч долларов.

Еще одно важное изменение касается использования семейного капитала.

Юрисконсульт **Оксана Игнатенко** поясняет:

*– По общему правилу, использовать семейный капитал можно, когда ребенку, в связи с появлением которого он назначен, исполнится 18 лет. В 2019 году распорядиться деньгами досрочно можно было, только если член семьи нуждается в серьезной медицинской помощи. С 1 января 2020 года возможностей досрочно использовать семейный капитал станет больше. А именно:*

*1) на строительство, реконструкцию или покупку жилого дома или квартиры. Если на эти цели был получен кредит, средства семейного капитала можно будет использовать на погашение задолженности и процентов по такому кредиту. При этом член семьи, который получал кредит, должен состоять на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий на дату заключения кредитного договора;*

*2) оплату получения членом семьи высшего образования I ступени. За счет семейного капитала можно будет оплатить только обучение в государственных учебных заведениях;*

*3) оплату следующих медицинских услуг, если в них нуждается кто-то из членов семьи:*

*– предоставление лекарств и медизделий при проведении сложных и высокотехнологичных операций в кардиохирургии, нейрохирургии и онкологии;*

*– стоматологические услуги: протезирование зубов, дентальная имплантация с последующим протезированием, ортодонтическая коррекция прикуса.*

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ЭКЗОТЫКА

## Станіслаў Шушкевіч чацвёрты раз запар сустракаў Новы год у Мексіцы

*Выдаткі на авіяпералёт і пражыванне першаму кіраўніку незалежнай Беларусі і яго жонцы аплачваюць лацінаамерыканскія сябры.*

15 снежня палітык адзначыў 85-гадовы юбілей, і ў хуткім часе адправіўся на далёкі кантынент.

– Я ўжо распавядаў, што апошнія тры гады мы з жонкай і на самай справе адзначаем Новы год у Мексіцы, – паведаміў Станіслаў Станіслававіч. – Лятаем туды па запрашэнні сяброў, якія аплачваюць усё. Так мне дзякуюць за тое, што я ў свой час напісаў ліст Фідэлю Кастра, каб той вызваліў лацінаамерыканскіх палітвязняў. Дарэчы, я да гэтага часу не ведаю, хто дакладна мяне запрашае, але здагадваюся.

Шчыра вам скажу: у Мексіцы жывуць вельмі прыемныя людзі з вельмі цікавымі традыцыямі. Краіна-казка! Усё, што я раней чытаў пра Мексіку, было не тое, што ўбачыў на свае вочы.




– Далёкі пералёт перанеслі нармальна, нас тут прымаюць на вышэйшым узроўні, – дадае **Ірына Шушкевіч**, жонка палітыка. – Надвор'е цудоўнае, за акном каля 30 градусаў.

– Тут я знаходжуся на беразе акіяна ў асяроддзі добрых сяброў, – адзначае Станіслаў Шушкевіч. – Калі ў Беларусі мяне ўлады крыўдзяць, то ў Мексіцы я адчуваю сябе нармальным чалавекам, які яшчэ камусьці патрэбны.

Дарэчы, зараз якраз абмяркоўваем тэму выдання маёй кнігі на англійскай мове, таму не толькі бавім час, але і праводзім пэўныя перамовы.

**– Як сустрэлі Новы год?**

– Адзначылі на ўзбярэжжы пад месяцам, які быў што талерка. Была цудоўная ноч і проста фантастычны феерверк!

У Мексіцы Станіслаў Шушкевіч з жонкай правядуць яшчэ каля дзесяці дзён.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПОМНИМ...

# 4 января экс-министру внутренних дел Юрию Захаренко исполнилось бы 68 лет

*Но он не накроет стол и не позовет гостей…*

*Почти 21 год о судьбе Юрия Захаренко известно только из скупых сообщений следователей и заявлений некоторых свидетелей его физического устранения.*



18 декабря минувшего года Следственный комитет возобновил приостановленное расследование уголовного дела по факту безвестного исчезновения Юрия Захаренко. Правозащитник **Олег Волчек,** который представляет интересы семьи Захаренко, получил соответствующее уведомление из Следственного комитета за подписью начальника отдела, следователя **Юрия Варавко**. Дело возобновили после разоблачительных признаний экс-сотрудника СОБРа **Юрия Гаравского,** который попросил политического убежища в Германии. Гаравский в интервью немецкому изданию Deutsche Welle в деталях рассказал о том, как спецгруппа под руководством экс-командира СОБРа **Дмитрия Павличенко** убивала **Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского** и **Дмитрия Завадского**. По словам Олега Волчека, сейчас следователи должны допросить и проверить алиби всех тех, чьи фамилии называет Гаравский в своем резонансном интервью.

Удивительно, но Следственный комитет так и не сделал официального пресс-релиза о возобновлении расследования. Хотя дело имеет большой общественный резонанс, к нему приковано внимание различных международных структур.

*«Пока нет информации о том, что кого-то из свидетелей, о которых говорит Гаравский, уже допросили*, – говорит «Народной Воле» Олег Волчек. – *Однако у нас нет и достоверной информации о том, что расследование возобновили именно в связи с показаниями Юрия Гаравского. Может, у Следственного комитета были совершенно другие основания. Общественности о причинах возобновления следствия никто ведь не сообщил. Просто всячески стараются замолчать эту тему…*»

Не так давно снова прозвучало, что **Юрия Захаренко** и **Виктора Гончара** видели в Германии. Об этом сказал А.Лукашенко в интервью российскому журналисту **Алексею Венедиктову,** подчеркнув, что по этому поводу был направлен запрос в Германию, на который так и не было получено ответа.

Вероятно, А.Лукашенко просто не проинформировали, что ответ все же был. И посольство Германии в Беларуси уже не раз комментировало эту тему и даже делало специальные заявления. Вот текст лишь одного из них.

*«Посольству Германии в Минске не известно о том, что в настоящий момент есть граждане Республики Беларусь, в отношении которых имелись бы предположения, что они исчезли в Германии. Также не известны соответствующие запросы со стороны белорусских ведомств. Все запросы, которые белорусские инстанции направляли ранее по таким или сравнимым с ними случаям в Германию, были рассмотрены, и на них были даны ответы.*

*Особенно это касается запроса о местопребывании исчезнувшего бывшего министра внутренних дел Беларуси Юрия Захаренко. Со ссылкой на статью в одной региональной немецкой газете, в которой содержалась лишь поверхностно расследованная информация, белорусской стороной было сделано допущение, что Юрий Захаренко находится в Германии. Посольство Германии в Минске получило официальный запрос белорусских властей 7 сентября 2001 года, то есть за два дня до президентских выборов в Беларуси.*

*Этот запрос был рассмотрен всесторонне и в срочном порядке. В результате в январе 2002 года германские ведомства сообщили белорусской стороне о том, что не удалось установить никаких отправных точек, которые указывали бы на пребывание Юрия Захаренко в Германии. После этого белорусские ведомства не передавали германской стороне никаких других запросов, а также каких-либо конкретных ссылок по этому делу…*

*Германия, как и другие европейские государства, очень заинтересована в том, чтобы судьбы пропавших граждан были выяснены и – в случае, если в этой связи были совершены преступления – были возбуждены уголовные дела в отношении соответствующих лиц и виновным был бы наконец вынесен приговор.*

*Развитие последних лет в Европе, а также в других регионах свидетельствует о том, что на международном уровне значительно возросла готовность к оказанию правовой помощи и уголовному преследованию за совершение преступлений против жизни».*

За все эти годы дело Юрия Захаренко вели пять следователей, двое из них уже умерли.

Семья Юрия Захаренко уже много лет живет в Германии. Вдова экс-министра внутренних дел давно не дает комментариев журналистам – для нее эта тема по-прежнему слишком болезненна. Старшая дочь Елена в фильме Deutsche Welle говорит, что потрясена признаниями экс-сотрудника СОБРа.

*«Надеюсь, все эти факты можно проверить*, – говорит Елена. – *Очень тяжело слышать информацию о том, как убивали отца, нужно иметь железные нервы…»*

**Марина КОКТЫШ.**

СЛЫШАЛИ?

## 30 дней на регистрацию лекарств

*В Беларуси начнет действовать упрощенная система регистрации импортных лекарственных средств. Но прежде будет создан Государственный фармацевтический надзор – «Госфармнадзор». Соответствующий указ подписал Александр Лукашенко.*

Дорогие лекарства и отсутствие некоторых импортных препаратов в белорусских аптеках – проблема, о которой в последнее время только и говорят. Когда Минздрав в прошлом году предложил белорусам присылать фото чеков, из которых будет видно, что одно и то же лекарственное средство в нашей стране стоит дороже, чем за ее пределами, пользователи соцсетей просто завалили медведомство такими сообщениями, а также жалобами, что из аптек периодически исчезают импортные препараты.

Цены на лекарства в наших аптеках, правда, ниже не стали, но вот с дефицитом или перебоями поставок импортных препаратов, похоже, начали бороться.

Указом А.Лукашенко «Об обращении лекарственных средств» предписано до 1 мая 2020 года создать Государственный фармацевтический надзор в сфере обращения лекарственных средств – «Госфармнадзор» и обеспечить его функционирование. Исполнитель – Министерство здравоохранения.

В указе отмечено, что основными задачами *учреждения «являются предотвращение поступления в обращение и своевременное изъятие из обращения некачественных, фальсифицированных лекарственных средств и лекарственных средств с истекшим сроком годности; предупреждение, выявление и пресечение нарушений требований законодательства об обращении лекарственных средств»*. Также указом – что очень важно – упрощается государственная регистрация лекарств. Комплекс предварительных технических работ должен составлять не более 30 рабочих дней с даты заключения договора между заявителем и РУП «Центр экспертиз и испытаний в здравоохранении», а сумма расходов заявителя на госрегистрацию при упрощенном порядке не должна превышать 120 базовых величин без учета НДС. Для лекарств, которые уже имеют регистрацию в Австралии, Австрии, США, Канаде, Швейцарии, Японии, Великобритании, Германии, Дании, Нидерландах, Швеции, Испании, Португалии, либо зарегистрированы уполномоченным органом ЕС для применения на территории этих государств, вводится упрощенная система регистрации. По упрощенной системе будут регистрироваться также лекарства для лечения туберкулеза, гепатита С, ВИЧ-инфекции, вакцины, прошедшие программу переквалификации Всемирной организации здравоохранения.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

СЯМЕЙНЫ РАХУНАК

# Новыя цэны на газ і тарыфы на электрычнасць

*31 снежня ўрад Беларусі устанавіў новыя цэны на газ, тарыфы на электрычную і цеплавую энергію.*



### Прыродны газ

Вызначана цана на газ, які выкарыстоўваецца з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу. Пры наяўнасці індывідуальных газавых абагравальных прыбораў яна складзе ў ацяпляльны перыяд з 1 студзеня па 31 мая ўключна – 0,1205 рубля за кубаметр, з 1 чэрвеня па 31 снежня ўключна – 0,1271 рубля. У летні перыяд газ будзе каштаваць 0,4213 рубля за кубаметр. Пры адсутнасці індывідуальных газавых прыбораў кошт складзе 0,4213 рубля за кубаметр газу незалежна ад сезона.

Калі ў доме або кватэры не выкарыстоўваюцца прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), цана складзе 3,37 рубля з аднаго пражываючага ў месяц. Цана на газ у жыллі, дзе ёсць газавая пліта і індывідуальны газавы воданагравальнік, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння, будзе 9,69 рубля з аднаго пражываючага. У кватэрах і дамах, дзе ёсць газавая пліта, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і індывідуальнага газавага воданагравальніка, газ будзе каштаваць 5,48 рубля для аднаго пражываючага ў месяц.

У жыллі, дзе ёсць індывідуальныя газавыя абагравальныя прыборы (і няма прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу), у ацяпляльны перыяд з 1 студзеня па 31 мая давядзецца плаціць 0,5320 рубля за 1 кв.метр агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц, з 1 чэрвеня па 31 снежня – 0,5936 рубля. У летні перыяд устаноўлены наступныя цэны: з 1 студзеня па 31 мая – 0,1995, з 1 чэрвеня па 31 снежня – 0,2226 рубля.

### Звадкаваны газ

Кубаметр звадкаванага газу ў кватэрах і дамах з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу і індывідуальнымі газавымі абагравальнымі прыборамі будзе каштаваць у ацяпляльны сезон з 1 студзеня па 31 мая 1,9563 рубля, з 1 чэрвеня па 31 снежня – 2,1628. У летні перыяд цана будзе 1,1409 рубля. Пры адсутнасці індывідуальных газавых абагравальных прыбораў 1 куб.метр таксама будзе каштаваць 1,1409 рубля.

Калі ў доме або кватэры не выкарыстоўваюцца прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), цана звадкаванага газу складзе 3,42 рубля з аднаго пражываючага ў месяц. Пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка і адсутнасці цэнтральнага гарачага водазабеспячэння ён будзе каштаваць 9,7 рубля. Пры наяўнасці газавай пліты, адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка – 4,56 рубля з аднаго пражываючага ў месяц.

Цана на звадкаваны газ у жыллі, дзе ёсць індывідуальныя газавыя абагравальныя прыборы (і няма прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу) у ацяпляльны сезон складзе: з 1 студзеня па 31 мая ўключна – 6,3021 рубля за 1 кв.метр агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц, з 1 чэрвеня па 31 снежня ўключна – 7,0314 рубля. У летні перыяд яна будзе 1,1409 рубля.

### Газ у балонах

Цана 1 кг газу ў балонах вагой 21 кг у межах норм спажывання складзе 0,81 рубля. Такім чынам, такі балон будзе каштаваць 17 рублёў.

### Электраэнергія

Аднаставачны тарыф на электраэнергію ў жылых дамах і кватэрах, дзе ёсць электрапліты, складзе 0,1616 рубля за 1 кВт·гадз.

Дыферэнцыраваны тарыф па двух часавых перыядах у такіх жылых памяшканнях у перыяд мінімальных нагрузак (з 22.00 да 17.00) – 0,1131 рубля за 1 кВт·гадз., а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17.00 да 22.00) – 0,3232 рубля.

Павышаецца таксама дыферэнцыраваны тарыф па трох часавых перыядах. У перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00) ён складзе 0,097 рубля за 1 кВт·гадз., максімальных нагрузак (з 17.00 да 23.00) – 0,2909 рубля, у астатні час сутак – 0,1131 рубля.

Кошт электрычнай энергіі для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт у перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00) складзе 0,1109 за 1 кВт·гадз., у астатні час сутак – 0,2059 рубля.

Што тычыцца тарыфаў на камунальныя паслугі, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне, то яны складуць: за 1 Гкал цеплавой энергіі для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння – 92,25; за 1 куб.метр прыроднага газу, што выкарыстоўваецца з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу, – 0,4421 рубля. За 1 куб.метр прыроднага газу, што выкарыстоўваецца без прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу пры наяўнасці газавай пліты і цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння або індывідуальнага воданагравальніка, тарыф складзе 3,54 рубля з аднаго пражываючага ў месяц, 10,17 рубля – пры наяўнасці газавай пліты і індывідуальнага газавага воданагравальніка (пры адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння), 5,75 рубля – пры наяўнасці газавай пліты і адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і індывідуальнага газавага воданагравальніка. За 1 кВт·гадз. электраэнергіі аднаставачны тарыф складзе 0,209 рубля, дыферэнцыраваны тарыф па двух часавых перыядах у час мінімальных нагрузак (з 22.00 да 17.00) – 0,1463 рубля, максімальных нагрузак (з 17.00 да 22.00) – 0,418 рубля.

Пастанова ўступіла ў сілу з 1 студзеня 2020 года.

(БЕЛТА.)

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Вольга СЕВЯРЫНЕЦ:

# «Павіншавала мужа як магла…»

*Жонка палітыка Паўла Севярынца, які адзначаў Дзень нараджэння і Новы год за кратамі, распавяла “Народнай Волі”, якім чынам перадала яму падарунак.*

Нагадаем, што за акцыі ў падтрымку незалежнасці былі асуджаны да адміністрацыйнага арышту 11 чалавек. **Алена Талстая** выйшла на волю 31 снежня, 2 студзеня – актывісты **Дзяніс Урбановіч**, **Максім Вінярскі** і **Яўген Афнагель**.

За кратамі па-ранейшаму на ўчарашні вечар заставаліся гомельскі і аршанскі блогеры **Сяргей Ціханоўскі** і **Дзмітрый Казлоў**, **Стас Шашок, Леанід Кулакоў, Алесь Чахольскі, Максім Урбановіч** і **Павел Севярынец.**

*“30 снежня ў Паўла быў Дзень нараджэння, таму сабрала і аднесла яму перадачу*, – кажа Вольга Севярынец. – *Перадала нешта з прадуктаў, самапечаны хлеб, невялікі падарунак. Адным словам, павіншавала як магла.*

*Мужа не бачыла, але Алена Талстая, якая выйшла з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў раней, паведаміла мне, што Павел пачувае сябе добра, у яго ўсё нармальна. І не праз такія выпрабаванні яму даводзілася прайсці”.*

Вольга адзначыла, што Новы год сустракала з малым сынам Францішкам і сваёй маці, якая прыехала ў Мінск падтрымаць дачку.

*“Пад Новы год з мужам мы пастаянна хадзілі на імшу ў касцёл, але зараз планы давялося змяніць*, – дадае яна. – *Таму з маці проста дачакаліся 12 гадзін ночы, абмяняліся віншаваннямі і пайшлі адпачываць. А Францішак заснуў яшчэ раней…”*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВІНШУЕМ!

# У Вольгі Мазуронак – плацінавы статус




5 студзеня ў кітайскім Сямене (Xiamen) стартуе буйны міжнародны марафон Залатой катэгорыі. Сярод удзельніц і наша славутая **Вольга Мазуронак**. Прычым беларуская бягуння ў ліку элітных спартсменак, ёй прысуджаны плацінавы статус паводле класіфікацыі World Athletics (WA).

Як адзначаюць у беларускай Федэрацыі лёгкай атлетыкі, з усіх удзельніц, якія маюць хоць нейкі статус WA, толькі тры прадстаўляюць не Эфіопію: дзве кітаянкі і адзіная прадстаўніца Еўропы – наша Вольга Мазуронак!

Дарэчы, спаборніцтвы ў Сямене маюць асаблівае значэнне. «*Па-першае, фактычна гэта адкрыццё новага марафонскага сезона*, – адзначаюць у федэрацыі. – *Па-другое, азіяцкая прапіска. Да Сапара, дзе летам пройдзе алімпійскі марафон, рукой падаць. Умовы і часавы пояс блізкія…”*

Пажадаем нашай “плацінавай” Вользе перамогі!

**Іван ШЫРОКІ.**

ПРОГНОЗ

## Григорий Гриц о возможной стагнации в 2020 году

В 2020 году темпы экономического роста будут оставаться низкими, близкими к стагнации. Такое мнение высказал эксперт, кандидат экономических наук **Георгий Гриц**.

Он напомнил, что официальный прогноз предполагает рост экономики на 2,8% в 2020 году. При этом в январе–ноябре минувшего года белорусская экономика выросла на 1,1%.

«Для того чтобы сокращать разрыв с соседними странами, белорусская экономика ежегодно должна расти на 4–15%. Точек роста, которые позволили бы обеспечить такой экономический рост, пока не видно», – отметил Георгий Гриц.

Поэтому, добавил он, стоит ожидать ситуацию, которая близка к стагнации в экономике.

По мнению эксперта, чтобы рассчитывать на устойчивый экономический рост, необходимо решить ряд проблем в реальном секторе.

«Начать стоит с повышения эффективности государства как собственника активов (в промышленности). Есть ряд примеров, когда государственные активы способны генерировать денежный поток, а не только его съедать», – подчеркнул Гриц.

Чтобы отдача от госимущества повышалась, необходимо освобождать госпредприятия от непрофильных активов, считает эксперт.

(Naviny.by.)

ОЧЕНЬ ЛИЧНОЕ

# Анна ДЕЛЕНДИК: «Дай Бог, чтобы у каждой семьи был такой Викторович!»

*Основателя компании «Дарида» Владимира Делендика читателям «Народной Воли» представлять не надо. Он нет-нет, да и любит пооткровенничать со страниц газеты. Вот и незадолго до Нового года сказал в беседе с журналистом то, что не всем понравилось. Что ж, Владимир Викторович таков, всегда говорит, ничего не утаивая, даже если это возбуждает его оппонентов.*

*Но сегодня «Народная Воля» вышла на тему, о которой известный бизнесмен никогда не говорил вообще…*

*Он не скрывает, что живет на две страны. Его старшая дочь Наталья более десяти лет назад переехала в Барселону, она замужем за испанцем, у них счастливая семья, трое детей.*

*Но мало кто знает, что у Владимира Делендика есть еще одна дочь. Ей 9 лет. На прямой вопрос об этом Владимир Викторович ответил так: «Я дочь не скрываю. Но комментировать не хочу. Если хотите – спросите мою жену, она в курсе всех событий».*

*Анна Михайловна Делендик, с которой бизнесмен прожил вместе больше 40 лет, легко соглашается на разговор. И он получается неожиданно откровенным – до мурашек по телу…*

– Это его любимое блюдо, – *говорит мне Анна Михайловна и протягивает большой бутерброд. Я пробую – он тает во рту, действительно очень вкусно.* – Я научу делать, это очень легко. Беру помидор, лучше, чтобы он мясистый был. Кожу срезаю и тру помидор на крупной терке. Именно на терке, потому что в блендере будет очень мелко. Если получилась литровая банка – туда побольше чеснока. Подсолить и добавить масло – или подсолнечное, или оливковое, какое нравится. И на белый подсушенный тостовый хлеб. Делаю сразу на целую неделю – это прекрасно хранится в холодильнике.

*Я откусываю бутерброд, делаю глоток кофе и задаю неудобный вопрос про младшую дочь бизнесмена.*

– У меня есть одно достоинство – я умею прощать, – *улыбаясь говорит Анна Михайловна.* – И я горжусь этим. Владимир Викторович не любит, когда я говорю про сына (*Сергей умер 17 лет назад, у него была зависимость от наркотиков, о которой семья узнала слишком поздно. –* ***М.К.***). Он и плакать мне запретил, когда сына не стало. Я плакала, но чтобы он не видел. Сын был его копией. Он его очень хотел, любил… Я верю, что сын помогает нам с небес, спасает и любит нас. Но эту тему лучше не поднимать. Это наше горе. Слава Богу, выжили.

Так вот я как человек, потерявший сына и будто вмиг осиротевший, когда Сонечку увидела, мне показалось, что это мое, родное! Клянусь всеми святыми! Я люблю Соню. И каждый день ей об этом говорю: «Ты моя умница, моя красавица, ты наша гордость!»

**– А как она вас называет?**

– Я с ней познакомилась, когда ей было два года. Она называла меня Аня. И когда мы с ней ездим в магазин, она все время говорит: «Аня, спасибо! Аня, спасибо!» И мне так приятно, что она произносит мое имя! Если честно, я сама от себя такого не ожидала, что вот так могу принять…

**– Вы выходили замуж по любви, много лет прожили вместе с Владимиром Викторовичем. У вас была счастливая жизнь?**

– Да, очень.

Вова – он лучший мужчина в мире. Я ему всегда это говорю. Последний раз на этой неделе говорила. Он самый лучший папа, самый лучший муж, самый лучший друг, самый лучший сын. Он просто самый лучший! У него одни достоинства. Недостатков нет.

**– Некоторые устают от совместной жизни и с годами перестают видеть достоинства своих мужей, глаз, наверное, замыливается. А когда так говорит бывшая жена – это вообще редкость…**

– Он умеет все время удивлять – чисто по-человечески. Отношением, уважением. У него этого в избытке.

Например, даже после того, как в нашей жизни появилась Соня, я ни дня не чувствовала себя лишней и ненужной. Это очень тонкие вещи…

Он всегда обо всем честно говорит. Сам. Как есть, так и говорит. А это дороже всего. Так было всю жизнь.

**– А как муж рассказал вам про другую женщину, про ребенка? Для вас это стало шоком, трагедией?**

– Неожиданностью было, конечно. Но я 20 лет акушеркой отработала. И беременность, ребенок – это для меня святое.



Я буду идти за беременной и думать: дай Бог ей здоровья, чтобы хороший ребенок родился…

Я не знаю… Когда Сонечку впервые увидела… Такая малюсенькая, такие глазочки… Она меня купила сразу всем!

Может, я какой-то не такой человек, как все. Я, повторю, сама от себя такого не ожидала. Но мне очень легко жить. У меня нет обиды, злости, ненависти. Только уважение и любовь.

**– Но ведь другая семья…**

– Ну и молодец, ну и слава Богу! Он настоящий мужчина. Не знаю, как это объяснить словами… Или он так умеет это преподнести… Он все так создал для всех, что все вокруг счастливы. Ну появился этот ребенок – в чем он виноват?

**– Появился – значит, Бог дал.**

– А я так и считаю. Взамен сына.

Я люблю, когда семья большая. Мне было страшно, когда сын умер и осталась одна Наташа. А когда года через четыре появился первый внук, Владик, а потом Соня, а потом еще два внука… Это такое счастье! Мы даже когда всех из школы встречаем – я так рада, что их много! А как они деда любят!

Владимир Викторович – и отец, и дед замечательный, изумительный просто! Он и ночами вставал, и пеленал детей, купал. Если мы шли в гости, я за столом сидела как свободная женщина. А они: «Папа, играть, папа, на улицу!» Он слова «нет» не умел детям сказать. Никогда их не наказывал, не ругал.

Знаете, я даже не хочу много говорить, чтобы все знали, какой он хороший. Не хочу хвалить, чтобы никто его не забрал. Не зря ведь говорят: счастье любит тишину. Я только немного могу сказать. Чтобы, не дай Бог, не сглазить.

И сейчас, несмотря ни на что, мы почти каждый день вместе. Он и звонит мне каждый день. А когда он в плохом настроении и спрашивает, чего ему звоню, я отвечаю: «Здрасьте сказать!» Потому что сам он обычно раз десять позвонит, а если не звонит, я волнуюсь. Может, что-то не то. Потому что у него заботы всегда через край.

Я ему все время говорю: «Вова, ты мне больше, чем муж, и брат, и даже мама».

**– Но вы официально развелись?**

– Да. В жизни, конечно, у нас всякое было. Как и в каждой семье. Но он всегда был дома, каждый день с семьей. И сейчас он везде говорит: это моя жена. Да и какая разница, есть штамп в паспорте или нет? Мы почти сорок лет вместе были.

**– А второй раз Делендик не женился?**

– Нет. Он женат на «Дариде».

Викторович – он же целый мир! У меня даже слов не хватает, чтобы рассказать, какой он замечательный.

**– С мамой Сони вы общаетесь?**

– Мы знакомы. Но в подругах не ходим. Да у нас и разница в возрасте немаленькая. У каждого своя судьба. У меня – своя, у нее – своя.

Сонечка много времени проводит с нами. Соня и моя Наташа – кровные сестры, как я могу не принять ее?

А слухи, которые ходят про другую семью… Ну пусть говорят! Семья – это всегда хорошо. А когда она большая – еще лучше.

Мы с Соней подружки большие. Я молю Бога, чтобы она выросла и чтобы я ее увидела взрослой…

**– Характер у вас, Анна Михайловна, удивительный!**

– Характер у меня тоже – мама, не горюй!

Хотя свекровь меня очень любила. Говорила все время сыну: спасибо, Володя, что на Ане женился. И мне говорила: если умру, приходи, Анька, ко мне на могилку, проси, я тебе всегда буду помогать. И я верю, что она меня и сегодня спасает. Я не имела подруг – все секреты свекрови рассказывала. Она очень хорошая мама, бабушка. Всю жизнь трудилась. Владимир Викторович никогда не мог поехать к своей маме без меня. И она всегда нас ждала.

Многому я у них научилась. Вот этой заботе. Я тоже не жадина и тоже умею любить. Но так, как умела это делать его мама, как Викторович умеет – это, наверное, даже неестественно. Это через край.

Я хочу, чтобы у него здоровье было покрепче, – ему в конце января уже 68 лет будет. Мне главное сохранить его как можно дольше.

Он умеет дружить, заботиться… Он никогда не ноет, не жалуется. Никогда! Даже когда трудности большие. Он сильный очень.

Я стараюсь максимально подпитывать его добром и любовью.

И за него всегда горой. У него бешеная забота о семье, о детях, внуках. Обо всех, кто рядом. Я на себе за 45 лет это испытала. И до сих пор всё это чувствую. Каждый день!

Я все время говорила: доченька, посмотри, какой у тебя папа сильный. Научиться быть стрессоустойчивыми – это у папы, быть сильными – у папы, быть лидерами – у папы, бизнесменами – тоже у него. Я его прошу: Вова, научи внуков всему, что умеешь сам! А он говорит: так они умнее меня!

Дай Бог, чтобы у каждой семьи был такой Викторович! Он самый щедрый человек в мире, в нем нет ни капли жадности. Я каждый день ему говорю: спасибо за заботу и за все то, что ты делаешь для нас.

Мы вместе прожили большую жизнь, родили детей, дождались внуков. Это самое главное. А то ведь некоторые маленьких деток побросают, еще и алиментов не платят.

Не все верят, что мы так дружно живем, большой семьей. Ну и пусть! Я никому ничего доказывать не собираюсь. Главное, что мы счастливы.

Таких, как Владимир Викторович, просто не бывает. Он единственный такой. И он самый лучший мужчина в мире. Спасибо ему за то, что он такой!..

**Марина КОКТЫШ.**

**На фото: Анна и Владимир Делендик.**

Фото автора.

РЭГІЁН

## Каля Гродна можа з'явіцца яшчэ адзін смеццеперапрацоўчы завод

*Аб гэтым паведаміў старшыня Гродзенскага гарвыканкама Мечыслаў Гой. На рэалізацыю праекта нямецкая кампанія NEP ECO мае намер патраціць каля 40 мільёнаў еўра.*

Паводле слоў чыноўніка, новае прадпрыемства звычайныя цвёрдыя бытавыя адходы будзе перапрацоўваць у паліва для кацельных, у прыватнасці, вырабляць са смецця гранулы, якія потым можна будзе спальваць у кацельнях невялікай і сярэдняй магутнасці. Пры гэтым падкрэслівацца, што выторчасць такіх гранул цалкам экалагічна бяспечная. Плануецца, што амаль уся прадукцыя пойдзе на экспарт у еўрапейскія краіны.

Тэрміны будаўніцтва новага прадпрыемства гродзенскі чыноўнік не назваў.

Нагадаем, што ў Гродзенскім раёне з 2017 года адкрыты і даволі паспяхова працуе смеццеперапрацоўчы завод.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Пра дэмакратычны рух у Слонімскім раёне

*Слонімскі актывіст Іван Бедка, які яшчэ ў 1980-х гадах браў удзел у фарміраванні дэмакратычнага руху і дэмакратычных партый у сваім раёне, выдаў аб гэтым кнігу.*

Як пішa аўтар, ён на працягу 30 гадоў занатоўваў усе справы слонімцаў: збіраў выразкі з газет, фотаздымкі, пісьмовыя адозвы, судовыя іскі, адказы з дзяржаўных арганізацый і ўстаноў, дакументы з забаронай на правядзенне мітынгаў, пікетаў, сустрэч. Усё гэта ляглo ў аснову кнігі, якую Бедка лічыць архіўным сведчаннем дэмакратычнага руху на Слонімшчыне ў 1989–2019 гадах.

Самы яркі ўспамін за гэты час, са слоў аўтара, Плошча-2010, калі ён разам са сваімі аднадумцамі апынуўся ў камеры мінскай турмы. Іван Бедка лічыць, што пра падзеі сучаснай гісторыі Беларусі павінны ведаць не толькі тыя, хто ўдзельнічаў у рознага кшталту акцыях і мерапрыемствах, а і тыя, хто не меў да гэтага ніякага дачынення.

70-гадовы слонімскі актывіст больш за 30 гадоў адпрацаваў урачом у сваім родным горадзе.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Алесь СІВЫ



## У бяздонную бочку…

Хакейнае мінскае «Дынама» закончыла мінулы год проста «феерычна»! 12 паражэнняў запар – гэта такі своеасаблівы «падарунaчак» пад ёлачку для сваіх балельшчыкаў. У 2019 годзе «Зубры» ў 61 матчы выйгралі ўсяго 13 разоў, і пры гэтым атрымалі самае буйное паражэнне за ўсю гісторыю Кантынентальнай хакейнай лігі – 1:9 ад «Салавата Юлаева». Адным словам, будзе што ўспомніць!

Калі ж казаць пра сур'ёзныя дасягненні клуба ў КХЛ, то асабліва няма чаго і ўспомніць, пачынаючы з 2008 года – тады каманда пачала выступаць у лізе. Выхад у плэй-оф ужо ўспрымаецца за шчасце, хаця звычайна каманда займае месца на дне турнірнай табліцы.

Практычна такая ж дэградацыя апошнім часам адбывалася і з нацыянальнай зборнай. У мінулым сезоне каманда са скрыпам выкараскалася з першага дывізіёна ў эліту, хаця вылет у «пердыв» – гэта было ўжо як абухом па галаве.

І гэта ў краіне, улады якой, нягледзячы на мізэрныя заробкі мільёнаў рабочых, сялян, урачоў, настаўнікаў, навукоўцаў, работнікаў сферы культуры, не шкадуюць грошай на хакеістаў!

Паведамлялася, што ў сезоне-2016–2017 агульны бюджэт «Дынама» складаў каля 20 мільёнаў долараў, хаця ў апошні час у клубе бедавалі, што грошай стала менш – напрыклад, у гэтым сезоне на заробкі ігракам, паводле некаторай інфармацыі, будзе затрачана ўсяго каля 6 мільёнаў долараў.

А ў 2018 годзе былі агучаны такія лічбы: сярэдні месячны заробак ігрaка мінскага «Дынама» – 20–25 тысяч долараў. Безумоўна, гэта сярэдняя лічба, але трэба сказаць, што яна ўражвае. Шыкоўная зарплата для людзей, якія ў выніку нічога не дасягнулі, ці не так?

Лядовыя палацы – гэта ў першую чаргу таксама для хакеістаў! Каля года таму ў Мінску на праспекце Пераможцаў адкрылі чарговую лядовую пляцоўку, а ўсяго, паводле афіцыйных дадзеных, у краіне іх ужо 33. Не толькі ў буйных гарадах, але і ў раённых цэнтрах.

У сярэднім на будаўніцтва аднаго такога палаца патрэбна 25–30 мільёнаў долараў. На самы дарагі палац – «Мінск-Арэну» – пайшло каля 350 мільёнаў долараў, на «Чыжоўка-Арэну» – каля 190 мільёнаў.

Неяк беларускі кіраўнік, сустракаючыся з хакеістамі і кіраўніцтвам мінскага «Дынама», сказаў: «*Самыя вялікія грошы мы трацім на ўтрыманне гэтай хакейнай каманды. Наколькі я разумею, спонсары дынамаўскага клуба (прыватнікі, якія гатовы са сваёй кішэні плаціць грошы) – гэта мізэр. У асноўным гэта дзяржаўныя грошы. І мы цяпер вызначаемся, дзе знайсці тыя грошы, каб утрымліваць годна каманду...*

*Усё будзе залежаць ад вас. Будзеце гуляць добра, будзеце перамагаць, радаваць народ, з майго боку будзе адпаведнае стаўленне да вас. Мы нічога не пашкадуем для каманды, калі яна будзе годна выступаць і выконваць дадзеныя абяцанні*».

Час прайшоў, і вось вам вынік: 12 паражэнняў запар хакеістаў мінскага «Дынама». Той самы выпадак, калі грошы ўжо ніяк не могуць паўплываць на здароўе пацыента. Яны ідуць як у бяздонную бочку. Не, такі хакей нам, падаткаплацельшчыкам, не патрэбны. Грошы трэба зарабляць, а не прагульваць!

